Год IV. Ліпень-Жнівень № 7-8 (42-43)

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

## ЗЬМЕСТ № 7-8



## BIEŁARUSKAJA ABE CEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | I, i — I, i. | S, s — С, с. |
| B, b — Б, б. | J, j — Й, й. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| C, c — Ц, ц. | K, k — К, к | Š, š — Ш, ш. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | L, l — ЛЬ, ль. | T, t — Т, т. |
| Č, č — Ч, ч. | Ł, ł — Л, л. | U, u — У у. |
| D, d, — Д, д. | M, m — М, м. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| E, e — Э, э. | N, n — Н, н. | V, v — В, в. |
| F, f — Ф, ф. | Ń, ń — НЬ, нь. | Y, y — Ы, ы. |
| G, g — Г, г. | O, o — О, о. | Z, z — З, з. |
| H, h — Г, г. | P, p — П, п. | Ž, ž — Ж, ж. |
| Ch, ch — Х, х. | R, r — Р, р. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

## „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год IV. | Вільня, Ліпень-Жнівень 1932 г. | № 7-8(42-43). |
| --- | --- | --- |

## Беларускае школьніцтва.

Кожны бадай ужо чалавек зразумеў, як цяжка жыць людзям неасьвечаным і дзеля гэтага ўсе як мага імкнуцца да таго, каб як небудзь здабыць асьвету. Зразумелі гэта і Беларусы, якія, будучы ў цяжкім палітычным і эканамічным палажэньні, не маглі належна павясьці працу ў гэтым кірунку, аднак выкарыстывалі кожную магчымасьць і рабілі ўсё тое, што толькі можна было. Перадусім была зьвернута ўвага на тварэньне свайго роднага беларускага школьніцтва, як вогнішча асьветы і культуры. Вынікі гэтае працы вельмі рожнаякія і бязумоўна годныя ўвагі, асабліва ў сучасны мамэнт, калі так многа пішацца ня толькі ў беларускіх, але і ў польскіх, расейскіх, а нават і жыдоўскіх газэтах аб справе беларускага школьніцтва.

Вось-жа зачнём ад Усходняе, найбольшае часткі, Беларусі, якая знаходзіцца пад уладай камуністаў.

Паводле вестак, паданых у Бюлетэні Савецкага Пасольства ў Польшчы—Усходняя Беларусь першая з пасярод усіх іншых саюзных рэспублік С.С.Р.Р. зрэалізавала ў сябе плян агульнага пачаткавага беларускага школьніцтва.

Апрача гэтага ёсьць там 112 школ тэхнічных, 47 работніцкіх унівэрсытэтаў — рабфакаў, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Сельска-Гаспадарчая Акадэмія, Беларуская Акадэмія Навук і інш. І ў той час, калі ў Англіі і Нямеччыне на 10.000 чалавек прыпадае па 14 і 18 студэнтаў, то ў ва Ўсходняй Беларусі прыпадае іх на гэты лік 30 студэнтаў. Магчыма, школы гэтыя стаяць на неадпаведнай вышыні і перасычаныя камунізмам з дамешкай маскоўшчыны, а нават і польшчыны (нядаўна створаны польскі Койданаўскі раён у цэнтры Беларусі), аднак яны, калі ня зьместам, дык формай беларускія.

Далей, Беларусы ў Латвіі, якіх паводле апошняе перапісі налічаюць 37.029 асоб (фактычна ёсьць іх удвая больш), пры ненайгоршых адносінах з боку латвійскага ўраду, маюць цяпер 29 беларускіх народных пачаткавых самастойных школ, у якіх вучыцца больш 2000 дзяцей беларускіх. У самай сталіцы Латвіі ў Рызе, Беларусы маюць, апрача двух пачаткавых школ, дадатковую беларускую школу для

дарослых з 350 вучнямі, два дзіцячыя прадшкольлі, дзяржаўныя двухгадовыя вучыцельскія курсы, якія існуюць ужо дзесяць гадоў і даюць што год па 12—18 вучыцялёў і прыватную Беларускую Гімназію, якую ўтрымлівае Беларускі Вучыцельскі Саюз пры помачы места Рыгі (па 8 тысяч латаў у год). У Дзьвінску таксама апрача пачаткавае школы ёсьць дзіцячае прадшкольле і Беларуская Дзяржаўная Гімназія з сваімі майстроўнямі. Так менш-больш выглядае стан беларускага школьніцтва ў Латвіі, якім кіруе Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Асьветы, маючы згары прызначаныя сумы на беларускія школы ў дзяржаўным бюджэце.

А што-ж Беларусы маюць пад Польшчай, якіх нават паводле ўрадавае статыстыкі з 1922 году лічыцца да 2 мільёнаў асоб?

Вось-жа паводле ўрадавае статыстыкі ў 1931 годзе была тут ўсяго 21 бел. ўрадавая пачаткавая школа, 41 школа ўтраквістычная (польска-беларуская) і дзьве прыватныя беларускія гімназіі (ў Вільні і Наваградку), якім сёлета Куратар Віленскага Вокругу запрапанаваў зьліквідавацца як самастойным адзінкам і перайсьці на роўналеглыя беларускія клясы пры польскай наваградзкай гімназіі і пры польскай гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні...

Так выглядае стан беларускага школьніцтва ў сучаснай Польшчы, дзе так шмат пішацца і гаворыцца аб дабрадзействах і толеранцыі нацыянальных меншасьцяў. І гэтак ёсьць тады, калі Беларусы пад Польшчай энэргічна і вытрывала дамагаліся свайго школьніцтва. Так напр. калі была магчымасьць складаць дэклерацыі на беларускія пачаткавыя школы, то было іх зложана, аж на 400 школ. Аднак так сталася, што сягоньня фактычна мы школ сваіх бадай сусім ня маем.

Гледзячы на ўсё гэта не ў аднаго маладога, гарачага, беларускага юнака адраджэнца паўстае пытаньне, — ці здабудзем мы калі небудзь тут у Зах. Беларусі належнае школьніцтва... асьвету..., ці і на далей „варункі“ сяньняшняга нашага палажэньня будуць так складацца, як дагэтуль?

Вось-жа, можам сьмела сказаць, што дачакаем тае шчасьлівае хвіліны, калі школу сваю здабудзем, бо ўсё-ж-такі мы расьцём, — расьце ў нас народная сьведамасьць, расьце ў нас свая беларуская інтэлігенцыя.

Дасюль бел. вясковая моладзь у Зах. Беларусі бадай ад нікога ня чуе і ня бача навукі, як яна павінна чытаць, пісаць пабеларуску і як жыць, аднак-жа з кожным днём прыбываюць усе новыя і новыя беларускія вясковыя інтэлігенты самавучкі, якія самі праз сябе, бяз нічые помачы, здабываюць сабе асьвету. А ў гэтым зарука нашай лепшай, сьвятлейшай будучыні, зарука здабыцьця ўрэшце сваей роднай школы нават і ў Заходняй Беларусі. Я. Н.

# У 50-тыя ўгодкі жыцьця Янкі Купалы.

(*1882—1932*).

Сёлета 25 чэрвеня, па старому стылю, а 7-га ліпня па новаму, прыпадаюць 50-тыя ўгодкі жыцьця Найвялікшага Беларускага Народнага Паэта Прарока-Будзіцеля Янкі Купалы (Яна Луцэвіча).

Ня будзем мы тут на сваіх вузкіх і скромных бачынах пісаць аб Ягоным жыцьці, творчасьці і заслугах для Беларускага Народу, бо яны на столькі вялікія, што ня зможам мы іх належна выказаць у так вузкіх рамках, але шчыра жадаемо Вялікаму Сыну нашай Бацькаўшчыны Беларусі многа гадоў шчасьлівага жыцьця і плоднае працы на беларускай ніве, а перадусім жадаемо дачакаць тае шчасьлівае хвіліны, калі Беларускі Народ будзе магчы заняць свой пачэсны пасад між народамі.

Беларускай-жа моладзі прыпомнім адзін невялікі, але актуальны верш юбілята:

Покі старасьць няўдалая
Костак з ног ня вале,
Рвіся, думка маладая,
Туды, вышай, далей!
    К таей праўдзе ненапраснай:
    К шчасьцю і свабодзе;
    Рвіся, покі будзе ясна,
    Покі будзе годзе!
Гарапашна, непрасьветна
І ў душы і ў хаце,
Стане горай няпрыветна,
Калі будзем спаці.
    Дык жывуча, скокам-бокам
    Покі сэрца точыш,
    Рвіся, думка, ненарокам, —
    Знойдзеш чаго хочаш!
Рвіся! рвіся! дый старайся
Нуду адалеці,
Заглушыцца не давайся
Ні за што на сьвеце.

*РЭДАКЦЫЯ.*



# Крыху з нашай гісторыі.

## Вялікі князь Сьвідрыгайла. Пачатак нацыянальнага змаганьня ў Вялікім Княстве

Па сьмерці Вітаўта вялікім князем В. К. Літоўскага быў выбраны Сьвідрыгайла (1430 г.), брат Ягайлы, кандыдат праваслаўнага беларускага і ўкраінскага насельніцтва.

Сьвідрыгайла — гэта была вельмі папулярная людзіна пасярод беларусаў і ўкраінцаў. Хоць сам каталік, ён адносіўся да праваслаўных з вялікай прыхільнасьцю, ужываў заўсёды мовы беларускай (або ўкраінскай), умеў зжывацца з народам, дружыў з баярствам, любіў з ім нават выпіваць і наагул быў, як гэта кажуць „душа чалавек." Апроч гэтага быў ён чалавекам нязвычайнай энэргіі і рухавасьці, ня любіў сядзець на мейсцы і галоўнае— усімі сіламі імкнуўся да вяліка-князеўскай улады. З гэтай мэтай ён дружыў з кожным, хто быў яму ў гэтым карысны, асабліва з праваслаўным насельніцтвам, пры помачы каторага спадзяваўся атрымаць вялікакнязеўскую ўладу.

І праўда — праваслаўныя беларусы і ўкраінцы стаялі гарой за яго, так што пасьля сьмерці Вітаўта Сьвідрыгайла быў выбраны на в. князя. Літоўская каталіцкае баярства хоць ня лубіла Сьвідрыгайла, мусіла згадзіцца на гэты выбар, бо, парваўшы з Польшчай з прычыны каранацыі Вітаўта, ня мела іншага выхаду.

Выбар Сьвідрыгайла быў новым ударам па Гарадлянскім дагаворы з 1413 г. Як мы ўжо ведаем, паводле таго дагавору, Літва мела выбраць для сябе в. князя са згоды Польшчы і бяз учасьця праваслаўнага баярства, а тут выбралі ня то што бяз ніякай згоды Польшчы, але яшчэ насупроць ей і пры пераможным уплыве праваслаўнага баярства! Гэнае выбарчае сабраньне, на каторым быў выбраны Сьвідрыгайла, было пачаткам пазьнейшага „Вялікага вальнага сойму," на каторы зьяжджаліся прадстаўнікі ўсіх зямель в. княства. На гэтым сабраньні выявілася нейкая збліжэньне каталіцкага літоўскага баярства з аднаго боку і праваслаўнага (беларуска-украінскага) з другога, якія ад часу уніі з Польшчай жылі ў дрэнных узаемаадносінах. Здавалася, што згода і саюз паміж дзьвяма часьцінамі насельніцтва дзяржавы, будуюцца на даўжэйшы час, што літоўскае каталіцкае баярства і беларуска-украінская праваслаўнае — астануцца саюзьнікамі ў абароне агульных інтарэсаў дзяржавы. Аднак скора гэтыя саюзьнікі разышліся — і сталася гэта дзеля палітычнай нявырабленнасьці Сьвідрыгайлы, з чаго скарыстала Польшч.

Сьвідрыгайла пасьля свайго выбару абапёрся прадусім на праваслаўным насельніцтве. Яго Рада складалася ня

толькі з літоўскіх баяр, але і беларускіх; пры Сьвідрыгайле праваслвўныя (беларускія і ўкраінскія) баяры прымаюць дзейнае ўчасьце ў кіраваньні дзяржавай і імкнуцца да таго, каб парваць унію з Польшчай (быў падпісаны абаронна-наступаючы дагавор з крыжаносцамі проціў Польшчы); Сьвідрыгайла назначае беларусаў і ўкраінцаў на вышэйшыя становішчы ў дзяржаве, раздае ім замкі і гарады — праводзіць палітыку варожую да другой часьці насельніцтва дзяржавы — да літвіноў. Аднак Сьвідрыгайла ня толькі адсоўвае іх ад кіраваньня дзяржавай, але карае іх дзе толькі можа за ўсякія правіны, чым стварае ўнутры дзяржавы для сябе заўзятага ворага. Літоўскае баярства ў адказ на такія адносіны да сябе Сьвідрыгайлы, пачынае зыходзіцца з палякамі, каб супольнымі сіламі ськівуць Сьвідрыгайлу з вялікакнязеўскага пасаду.

А якраз тады разгарэлася змаганьне паміж Літвою і Польшчай за Падольскія землі. Падольле ляжала на ўсход ад Галіччыны і за яго цягнулася змаганьне паміж Польшчай і Літвою ўжо некалькі дзесяткаў гадоў. Ягайла быў аддаўшы Падольле ў валаданьне Вітаўта па канец ягонага жыцьця. Калі Вітаўт памёр і на вялікакнязеўскі трон быў выбраны Сьвідрыгайла, палякі пасьпяшылі заняць Падольле сваім войскам. Сьвідрыгайла пачаў выбіваць польскія гарнізоны з падольскіх гарадоў і нават затрымаў у Літве Ягайлу, які быў прыехаўшы на перагаворы з Сьвідрыгайлам, жадаючы ад яго загаду вывесьці польскія гарнізоны з Падольля. Ягайла такі загад выдаў, але польскія гарнізоны не паслухалі і асталіся на Падольлі.

Болей таго, калі польскія паны пачулі, што літоўцы хочуць пазбыцца Сьвідрыгайлы, выслалі да іх паслоў, каб дагаварыцца ў справе помачы. Літоўцы прынялі польскую помач ; выгналі Сьвідрыгайлу з Вільні ў начы 1.IX.1432 г. Сьвідрыгайла ўцёк у Полацак, а на чале літоўцаў стаў брат Вітаўта — Жыгімонт, якога літоўцы выбралі вялікім князем. Такім парадкам у Літве наступіла раздваеньне, каталікі паддзержывалі Жыгімонта, а праваслаўныя — Сьвідрыгайлу — і паміж дзьвяма часткамі аднэй дзяржавы пачалося заўзятае змаганьне. Каб адцягнуць праваслаўнае насельніцтва ад Сьвідрыгайлы, Ягайла і Жыгімонт выдалі ў тым-жа 1432 г. прывілей, на падставе якога прызналі праваслаўнаму насельніцтву роўныя правы з каталіцкім. У прывілеі былі паказаны і прычыны гэтых уступак, а іменна: каб на будучыню ня было падзелу паміж дзьвяма часткамі насельніцтва, які можа прынесьці шкоду дзяржаве, але каб усе грамадзяне бяз рожніцы веравызнаньня прызнавалі і слухалі загадаў Ягайлы і Жыгімонта...

Як бачым падход з боку польскага быў добра абдуманы, але ўжо і тагды словам польскіх палітыкаў ня веры-

лі: праваслаўныя далей моцна паддзержывалі Сьвідрыгайлу і гатовы былі на найбольшыя ахвяры. Землі: Полацкая, Віцебская, Смаленская, Кіеўская, Валынская і ўсходняе Падольле асталіся вернымі Сьвідрыгайлу; і ня прызнавалі Жыгімонта. Пачалася вайна. Сьвідрыгайла нападаў на Літву і нішчыў яе. На помач Літве пасьпяшыў сам Ягайла, які разам з Жыгімонтам выдаў яшчэ багатшыя прывілеі для літоўскага і беларускага баярства. У абозе Сьвідрыгайлы пачаўся нялад і здрада, баяры пачалі пераходзіць на старану Жыгімонта. Сьвідрыгайла пачаў выкараняць здраду ў сваіх радох агнём і мячом (так ён загадаў спаліць у Віцебску праваслаўнага мітрапаліта Гарасіма, якога западозрываў у здрадзе), чым яшчэ болей адапхнуў ад сябе праваслаўнае насельніцтва. Урэшце, пасьля няшчаснай для Сьвідрыгайлы бітвы на рацэ Сьвенце (каля Вілкамера) у 1435 г, праваслаўныя бел.-укр. землі пакідаюць яго і ўрэшце Сьвідрыгайле астаўся толькі Крэмянец і ўсходняя часьць Падольля. Такім парадкам змаганьне паміж Сьвідрыгайлам і Жыгімонтам скончылася на карысьць гэтага апошняга і разам з гэтым на карысьць уніі з Польшчай.

Пры большых палітычных і арганізацыйных здольнасьцях Сьвідрыгайла могбы павярнуць гісторыю нашага краю ў іншы бок і правесьці да канца палітыку Вітаўта, ідучага да поўнай незалежнасьці нашага краю. Аднак Сьвідрыгайла, які быў добрым агітатарам і нават дэмагогам, але слабым будаўнічым і арганізатарам дзяржавы, гэтага зрабіць ня здолеў.

В. Г.

---

# Ab kulturnych formach žyćcia. 7)

*Što, kali i jak apranuć?*

Siahońnia ciažka vymahać ad niekaha, kab mieŭ usio patrebnaje z vopratki. Zatoje-ž kožny moža ŭtrymać svaju vopratku *ŭ paradku* (cełaj choć i załatanaj) i *čystaj*.

Druhim ahulnym praviłam apranańnia jość, kab usio toje, što čałaviek z vopratki na siabie ŭskładaje, było miž saboj u sui̇adzie. Proci hetaha praviła jak raz hrešać tyja, chto i majuć ci mahli-b mieć što adzieć, dy nia viedajuć, što da čaho naležycca: daŭ Boh ciala dy niama chlava. Dla hetych voś nie-šmatlikich praznačany pierad usim i nastupnyja radki.

Z mužčynskaj vopratki pry siahońniašnim kryzysie najvyhadniej mieć hetak zvany tavaryski kaścium. Składajecca jon z čornaj abo čorna-sivoj marynarki, hetkaj-ža kamizelki i ciomna-šerych, z čornymi abo śvietłymi padoŭžnymi pałoskami nahavicaŭ. U hetkim kaściumie, dapoŭnienym biełaj, miak-

kaj sapočkaj (kašulaj), biełym stajačym abo adkładanym ćviordym kaŭnierykam z uzorystym (čorna z biełym) halštukom, abo h. zv. muškaj (pry adkładanym kaŭnieryku) možna śmieła jści ŭ luboje tavarystva i na jakuju chočacie imprezu (zabava, kancert, teatr, spacer i h. d.), hdzie inšaja vopratka nie žadajecca ŭ sumysnych zaprosinach.

Mienš elehantny, ale ŭsio-ž vyhodny jość h. zv. kaścium na vychad: uvieś z adnaho, viasnoj z śviatlejšaha i cianiejšaha, pad vosień z ciamniejšaha i hrubiejšaha materjału. Mohuć być na heta ŭžyty ŭsialakija „šaraki". Pavažniej zaŭsiady adnak budzie vyhladać hetki kaścium z ciomnaha materyjału i hetki tolki moža być užyvany ŭ tavarystvie ŭ viačernych hadzinach. Musić być da jaho ŭviečary kaŭnieryk biely, adkładny, ćviordy, mankiety miahkija, čornyja čaraviki abo tufli z ciomnymi da ich škarpetkami. U śvietłym kaściumie ŭ tavarystva jści možna na vakacyjach dy na zabavy pad adkrytym niebam (u sadzie).

Jašče bolš vyhadniejšym da našeńnia, ale i bolš ahraničanym što da pary i miejsca ŭžyvańnie, jość kaścium spartovy. Biada tolki, što jon nadta-ž čutki i na kaprysy mody i źmianiajecca što paru hadoŭ. Spartovy kaścium vielmi nadajecca na ŭsiakija pachodki (ale nie pa mieście) i na niadoŭhija pajezdki ciahnikom. Da spartovaha kaściumu ŭžyvajecca žoŭtyja z hrubšaha tavaru tufli. Pančochi — časta da kalena — abo hrubšyja, sukonnyja, abo cianiejšyja z niaznačnym uzoram. Kašula (sapočka) miakkaja, hetki-ž kaŭnieryk i śvietły halštuk.

Chto moža sabie pazvolić na bolšuju vyhodu i smak u vopratcy, toj spravić sabie napeŭna h. zv. *smoking*, marynarkovy kaścium, z čorna-jadvabnymi klapami i hetkimi-ž vuzkimi lampasami. Treba tolki viedać, što smokingu nielha nasić udzień zusim, a viečaram — tolki ad 6(18)-aj hadziny. Kašula da smokingu musić mieć ćviorduju biełuju manišku, hetki-ž stajačy z łamanymi rahami kaŭnieryk i abaviazkava čorny „matylok". Tufli-lakieroŭki i čornyja jadvabnyja škarpetki.

Naranicy i naahuł na praciahu dapałudnia vielmi gustoŭnaj vopratkaj jość h. zv. žakietka, pašytaja — jak i „tavaryski kaścium" — z čysta čornaha, abo z čorna-sivoha sukna, taksama kamizelka, a nahavicy — sivyja ŭ pružki.

Zamiest žakietki daŭniej užyvaŭsia surdut (Kaiserrock, Redingote). Siahońnia adnak jon vyvodzicca z mody.

Ščytam elegancyi mužčynskaj vopratki jość h. zv. „frak". Užyvajecca jaho adnak tolki tam, dzie heta vyrazna napierad zaznačana i nie raniej 8(20)-aj hadziny. Da hetaha patrebny biełaja krachmalnaja sapočka z takim-ža stajačym kaŭnierykam, biełaj (možna i čornaj) kamizelkaj i abaviazkava biełym halštukom — muškaj. Čaraviki-tufli — lakieravanyja.

*V. S.*

---

# Літэратурны аддзел.

## ЧУЮ, Б'Е ПРЫЛІЎ ГАРАЧЫ.

Чую, б'е прыліў гарачы,
Накіпае песьня ўзноў,
Харашэюць нівы нашы
Севам зорных красак — слоў.
    Сьвежай хваляю, бурлівай,
    Без спачынку ў сьвет імкнём.
    Маладая пеніць сіла,
    Уздымаем буралом.
Мы цяпер уздымам п'яны,
Адраджэньня лучыць шум,
Паняверкі імчыць раны
Радасьць сьпеўных нашых дум.
    Мерым вёрстамі мінуты.
    Час, скачы, скачы хутчэй...
    Звоняць песьні новай нотай,
    Шчасьця прышлых сьветлых дней.
Чую, б'е прыліў гарачы,
Чую, грае песьню кроў
Гэй-жа сьмела, арляняты,
У палёт! Да новых дзён! **М. Машара.**

## РОЖЫ І САЛАВЕЙ.

Прыгожай парою,
Чароўнай вясною,
Дзіка — калючыя,
Рожы пахучыя
    Ціха ў садку расьцьвіталі...
Ім сонейка коскі
Вясньняныя ласкі
Што-дня пасылалі,
Так шчыра кахалі,
Так шчыра усіх цалавалі...
    А ў кусьце між імі,
Прыгожа жывымі
Гняздо салавейка
Сабе зьвіў маленька,
    Зьвіў спрытна, старанна і ўмела...
І песьня каханьня,
Што ўвечар і зраньня
Бяз сьціху лілася,
Далёка няслася,
    Наўкола зьвінела, грымела
Аж нейчыя рукі
Ад шчасьця, ці мукі

Раз ночкай дапалі,
Усе рожы парвалі,
І усе па зямлі раскідалі...
Той ночкаю хмары
Па небі лятаді,
Дажджом аблівалі,
Маланкаю зьзялі
І віхры наўкол скавыталі...
Галінай якойсьці
Забіла у кусьці,
У гняздзе салавейку
І ўпаў ён маленькі
На землю;ні плакаў,ні енчыў;
Між красак прыгожых,
Між парваных рожаў
Упаў ён маленькі,
Змоўк ціха на векі.
І песьню каханьня ня скончыў...
А зраньня халодны
Сьціх вецер шалёны
І неба ўсё чыста
Было ізноў празрыста:
Усе хмары дзесь зьніклі, прапалі...
І сонейка коскі
Парваныя краскі
І птушку між імі —
Ужо ня жывымі
Так шчыра ізноў цалавалі...

**Міхась Явар.**

* * *

Тварык ня збруджаны пудрай, парфумаю
Мілай красою сьвяціўся,
Погляд абвеяны ціхаю думаю,
Шчасьцем каханьня іскрыўся...
Дзе-жа цяпер усё тое падзелася?
—Яго глынула мінуласьць,
Ўсё перайшло, толькі ў сэрца уелася
Жаль і трывожная чуласьць.
Пуста, маркотна. Тугою акружана
Сьцежка мая жыцьцявая
Бязвольным лёсам, нядоляй здушана
Мая душа маладая.
Дзе-ж пагляд вочак, што ўсьмешкай вясёлаю
Міла, павабна іскрыўся?
Ці йшчэ узрадуе душу мне кволую,
Ці назаўсёды закрыўся?

**Юльян Сяргіевіч.**

## LIPIEŃ.

Pajšoŭ doždžyk miły,
Nabiraje siły
Dreŭca, traŭka, zboža.
Cicha. Niama vietru.
Sviežaje pavietra.
Na dware tak hoža!
Siena voz zabrali,
Reštu paskładali,
Pamahli susiedu.
Chmara nalacieła,
Krepka zahrymieła —
My pryšli k' abiedu.
Kryšku doždž uniaŭsia,
Zara lepšy ŭziaŭsia
I pašoŭ ručjami.
A małanka źjaje,
A Illa stralaje —
Strašna nam časami.
Sonka prahladaje,
Chmara asiadaje
Z hromam, z hukam z recham.
Dzieci heta bačuć,
Ŭžo pa łužy skačuć
Z zvonkim ščyrym śmiecham.
Pierastaŭ zławacca —
Staŭ Illa śmiajecca:
Vypuściŭ viasiołku.

Razchililiś kwietki,
Razhulaliś dzietki,
Razlataliś pčołki.
Ŭsio kruhom śmiajecca,
A mnie tak zdajecca —
Traŭka radaść čuje.
Sonca z nieba skoča,
Rečańka łaskoča,
Tvar vady całuje.
Voś dziaŭčynka šustra
Vady mucić lustra,
Myje ručki, nožki.
Rečka soncam źjaje.
Dziaŭčo rassypaje
Załacieńki kroški.
Ŭžo prahnana licha,
Sonca schodzić cicha
Da ziamielki ŭ swaty.
Ptuški raspiajaliś,
Ludzi adazvaliś —
Ŭžo piajuć dziaŭčaty.
Tam i tut viasiołki:
Dzietki, jak aniołki,
Chodziać sierad zboža.
A ziamielka ščasna,
A pryroda krasna —
Boža, dobry Boža!

**V. A.**

## SIABRU - NASTAŬNIKU.

Jak žyć dumaješ nadalej,
Siabra-bratka darahi?
Płyvi śmieła proci chvali,
Choć daloka bierahi.

Los Ty svoj nie praklinaješ,
Jarmo moŭčki vałačeš,
Bo nadzieju śvietłu maješ
Ściah svoj vysaka niasieš.

Na aśvietu dla narodu
Ty siabie achviaravaŭ
I u buru-niepahodu
Ty jaho nie pakidaŭ.

Chaj-ža siły maładyja
Hetak dalej prosta jduć,
A nastaŭniki ŭdałyja
Šyrej šlach im raźmiatuć.

Niachaj ludzi skarystajuć
Z Tvaje pracy na šmat let,
Niachaj ŭnuki pamiatajuć,
Jak pacieŭ nastaŭnik-dzied.

*Dziadźka Jazep.*

---

# Šrom.

Byŭ jon syn batraka samy najmałodšy. Batrak hety mieŭ jašče dvuch synoŭ i adnu dačku.

Dziŭnaja reč — małoha Šroma nichto nia lubiŭ — nia lubiŭ jaho baćka i časta jaho haniaŭ da najciažejšaj raboty. Matka inakš nie nazyvała jaho, jak padłaj. „Čaho ty lažyš, padła, ustavaj, vun karovy para ŭ pole vyhaniać,“ byvała jana zakryčyć złosna sturchajučy małoha. Jon ustanie, padješć jakoj poliŭki i honić u pole. Braty jaho inakš nie nazyvali, jak ščaniuk. Małaja jahonaja siastra čuć zdoleła havaryć, a ŭžo zvała jaho roznymi mianiuškami: „kasmyl, kudlač.“

Praŭda, što Šrom nikoli nie časaŭsia i redka kali myŭsia i byŭ zapraŭdy „kudłač,“ mieŭ jon vichravatyja vałasy. Časami maci jaho padstryhała, kali jany vyrastali tak, što zakryvali na‘t i vočy. Padstryhała jana jaho tymi naźnicami, što stryhuć aviečak; pośle hetaha Šrom padobny byŭ bolš da barana čym da čałavieka. Uvidzieŭšy jaho padstryžanym, dzieci kryčali: „stryžka baryška, na kałodzie siadzieŭ hdzieści hladzieŭ.“ Prazyvali jaho „Šrom“ zatym, što jon, jak byŭ jašče zusim mały, nia moh vyhavaryć „hrom“, a kazaŭ niešta papadobnaje da słova „šrom“. Adhetul i prystała da jaho mianiuška „Šrom“.

Biedny Šrom nia moh zrazumieć, čamu jaho nichto nia lubić, bo jon nikomu, nikoli, ničoha złoha nie zrabiŭ: usich słuchaŭ, nikoli złym słovam nie adazvaŭsia, nia tolki da maci ci baćki, a na‘t da svajej najmienšaj siastrycy. Widzieŭ Šrom niaraz, jak baćka jahony hładziŭ ciućku Rudku, nazyvajučy jaho „Dobry Rudka, dobry“, choć hety „dobry“ niaraz zrabiŭ škodu, ciahnuŭ z ježy, što ni papała; jahož, Šroma, baćka nia to što ni razu nie papieściŭ, a na‘t paludzku nie adazvaŭsia, a najčaściej z łajenkaj i z hnievam.

Čamu Šroma tak usie nia lubili, trudna zhadać.

I ros tak mały Šrom, nie daznaŭšy ad nikoha łaski ni pašany. Jon z hetym zvyksia i nia dumaŭ ab ničym lepšym. Ci razvažaja małaja sasonačka, što raście hdzieści na bałotcy, čamu jana nia moža pryhoža raści, a raście niejkaja karuzłaja, małaja, nikčemnaja; jana i nia dumaje ab pieramienie svajho losu: tak musić i treba, kab jana rasła tut na hetym miejscy. Tak musić i treba było, kab i Šrom ros u takoj paniaviercy.

Jon nia byŭ durny, byŭ na‘t kiemny chłapčuk: małym užo ŭmieŭ łapci plaści, chacia nichto jaho i nia vučyŭ, umieŭ vić abory, kanapli na heta jon zdabyvaŭ ad svaich kaleh, viŭ im za heta abory, i puhi, kruciŭ dobra dudki i ŭmieŭ na ich strojna ihrać, adnak, nia hledziačy na heta, kalehi z jaho śmiajalisia, bo i było z čaho śmiacca: maci byvała, daść jamu torbu i to takuju kareluju, što prosta až strach, a portač-

ki, a kapota! Usio ŭ jaho horšaje čymsia ŭ jahonych kalehaŭ, akramia łapciej, katoryja Šrom umieŭ sam dobra pleść. Kašula jahonaja była karełaja i hrubaja: jana była bolš padobnaja da miaška, čymsia da kašuli. Kapota była zrebnaja, łata na łacie: pry tym łaty henyja byli roznaj vialičyni i roznaha koleru, a było i tak, što i hetyja łaty byli dziravyja. Mokła jana časta na słocie, sušyłasia na jahonych plačoch, jak na piečy, jana ŭ jaho była adna. Kapota henaja nikoli nia była novaj, bo maci pierašyła iz zrebnaha staroha jarmiaka, što staršy brat apranaŭ na načleh, uściahivajučy jaho na kažuch. Kali hety jarmiak dobra padnasiŭsia i parvaŭsia, to maci jaho skaraciła, padrezała rukavy, dzie-nie-dzie pałatała i voš vopratka dla Šroma vyšła zusim umieru. Kapotu hetuju Šrom padviazyvaŭ aborynaj, bo huzikaŭ maci nie pryšyvała, kab ich Šrom nia vyrvaŭ. Aboryna hetaja paddzieržyvała razam i jahonyja portki. takija-ž zrebnyja, jak i kapota. Chłopcy-pastuchi śmiajalisia z jahonaj vopratki, śmiajalisia i z jahonaj šapki.

Niaraz padkidyvali jany jaje dahary, kidajučy ŭ jaje kamieniami: skolki było śmiechu, kali kamu ŭdałosia ŭ jaje papaści. Šrom płakaŭ, nie davaŭ, prasiŭ, adnak heta ničoha nie pamahała: chłopcy niaraz rabili jamu na złość: zakidyvali jahonuju šapku až na dreva, a kali adtul nie mahli zbić kamieniami, biedny Šrom musiŭ sam leźci adtul jaje dastavać i prytym jašče bolš dzior svaje portki i kapotu. Maci jaho za heta biła i kazała, što jana jamu skuru parvie. Adnym słovam, Šroma nichto nia lubiŭ, nichto jamu nie spahadaŭ, ani svaje, ani čužyja.

Była adnak adna asoba, katoraja vyskazała raz spahadnaść Šromu. Heta była małaja dziaŭčynka, dačka adnej udavy, što žyła niedaloka dvara i paśviła aviečki. Dziaŭčynka hetaja nazyvałasia Waruśkaj. Jana raz bačyła, jak chłopcy papichali Šroma i ŭsio kryčali: „Šrom, hrom, Šrom, hrom". Chłopcy byli razdzialiŭšysia na dva rady i adzin rad pichaŭ Šroma da druhoha. Šrom vyhladaŭ nadta śmiešna: jon adnej rukoj dziaržaŭ portki, kab jany nie zvalilisia, bo aboryna, katoraj byŭ padpirazaŭšysia, razviazałasia i jahonaja kapota razchrystanaja, miatusiłasia na ŭsie baki. Doŭha jaho tak chłopcy papichali i tahdy tolki adstupilisia, kali Šrom, zabłutaŭšysia ŭ svaju kapotu i abory ad łapciej, zvaliŭsia ŭ hraź. Jon nie padymaŭsia, bajučysia, kab jaho iznoŭ nie papichali, lažaŭ i cicha płakaŭ. Tahdy henaja dziaŭčynka, Waruśka padyjšła da jaho i, nachiliŭšysia, łaskava prahavaryła: „Nia płač, Šrom." Jon padniaŭ hałavu i ŭvidzieŭšy dziaŭčynku, zastydaŭsia, pierastaŭ płakać i chutčej pabieh da stadka. Jamu stała viesialej na dušy.

Jon pieršy raz u žyćci pačuŭ łaskavaja słova.

Tak musić ciešycca hdzieś u ciemry rastučaja raślinka, kali da jaje prabjecca kasulka sonca.

Śrom chacieŭ spatkać henuju dziaŭčynku, tolki stydaŭsia, što jana jaho bačyła, jak jon płakaŭ. Śrom pastanaviŭ bolš nia płakać, choćby tam niaviedama jak jamu dakučali.

— — — — — — — — — — — — — —

Išli hady za hadami. Žyćcio Śroma nie źmianiłasia — źmianilisia tolki žyćcia abstaviny: jaho addali na službu ŭ dvor, hdzie žyła batračka z dačkoj Waruśkaj.

Śrom dobra ŭžo padros. Služba Śroma była trudnaja i adkaznaja: treba było vyhaniać bydła ŭ pole što dzień, a nia tak jak u vioscy — na pieramienku. Ci ŭ śviata, ci ŭ budni, ci doždž, ci śpieka, ci zdaroviłasia, ci nie — ustavaj rana i styrčy cely dzień na poli. Śrom nia mieŭ kamu i pažalicca, kali jamu było nieŭmahatu. Jon často kašlaŭ prastudziŭšysia. Adpačynku nia było nikoli, choć Śrom ledź vałačyŭ nohi, adnak u pole hnaŭ, bo strašenna bajaŭsia akanoma. Akanom byŭ čałaviek vielmi srohi. Jon chadziŭ zaŭsiody z nahajkaj na kazinaj nožce i kali byŭ zły, to tak kryčaŭ, što było čutno na cełyja viorsty. Jon tahdy ŭdaraŭ pa svaich bliskučych chalevach bizunom, a najčaściej pa plačoch taho, na kim zhaniaŭ svaju złość. Śrom niaraz bačyŭ heta na svaje vočy, čuŭ na svaje vušy i prasiŭ Boha, kab jaho heta niaščaście abminuła. Nia było, adnak, taho ščaśliŭca ŭ dvare, kab nie pakaštavaŭ akanomavaj nahajki. Skora daviałosia heta i Śromu. Raz letam u śpieku, kali hili tak daniali karoŭ, što jon nijak nia moh ich ŭdzieržyć i karovy rynulisia, padniaŭšy chvasty, praz pšanicu da chlavoŭ, Śrom nia znaŭ što rabić: jon bieh što siły ŭ nahach, kryčaŭ jak moh, heta adnak ničoha nie pamahała—karoŭ strymać jon niazmoh. Na heta licha trebaž było spatkać samoha akanoma, jon bieh i kryčaŭ sa złości:

„Ty tak pasieš, padła!“

Śrom stajaŭ i hladzieŭ akanomu prosta ŭ vočy. Heta jašče bolej złavała akanoma: jon jorzaŭ u haru zadziortymi vusami i ŭdaraŭ nahajkaj pa svaich bliskučych chalevach. Sa złości jon nia moh havaryć: zdavałasia, što akanom nadumyvajecca, jak lepš i dakučniej ukarać Śroma. Adzin momant i Śrom lažaŭ na ziamli. Nahajka zaśvistała: jana paliła jamu plečy, tvar, usio cieła, jak ahniom. Mała taho, pašli i boty akanoma ŭ ruch: jon biŭ i taptaŭ jaho nahami. Niama viedama, čym heta skončyłasia-b, kab nia kliknuli pana akanoma da chaty, bo pryjechali hości. Śrom doŭha niamoh ustać, a kali ŭstaŭ, to ŭ jaho źviniela ŭ vušach i baleli usie kostački. Dyk vot u jakoha pana służyŭ Śrom, vot chto byŭ jaho sudździa i vykanaŭca prysudu. Ab złości i drennych pastupkach akanoma było viedama daloka i šyroka: usie ab ich znali — nia znaŭ tolki sam pan, a mo i znać nie chacieŭ. Panu, znać, taki byŭ patrebny, bałazie-b tolki ściaroh panskaha dabra, a tam rabi, što chočaš. Akanom i rabiŭ: nia by-

ło žonki, parabka, kab akanom nie paznaŭ jaje bližej, abo pryhožaj dziaŭčyny: biada mužyku, abo baćku, katory pakazaŭby svajo z hetaha niezdavaleńnie. Susiednija vioski prad im dryželi: ani sučka, ani travinki, ani jahadki, ničoha nia śmiej začapić panskaha. Za alchovy kałok, što vysiek mužyk la darohi, kab uzłažyć kałodu na voz, źbiŭ da paŭśmierci i ŭ sud padaŭ...

(d. b.) J. B—na.

---

# Jak być zdarovym. (4)

## Ježa i pićcio.

Čałaviek, kab być zdarovym, pavinien systematyčna i ŭ mieru prynimać jadu i napoj. Bo jak u mašynie vyharaje benzyna i ścirajecca aliva, taksama i ŭ čałavieka vychodziać, zharajuć, zapasy tuku (tłuščŭ), białka i vuhlavadanaŭ, heta zn. substancyjaŭ, z jakich u bolšaj miery składajecca ludzki arhanizm.

Jadziom adnak kab žyć, a nie žyviom, kab jeści. Patrava naša pavinna być roznarodnaja. Nia možna npr. adžyŭlacca doŭhi čas tolki adnym miasam z chlebam, abo adnej bulbaj. Dla arhanizmu našaha patrebnyja: białok, tuk (tłušč), vuhlavadany, mineralnyja soli i vitaminy.

*Białko* znachodzicca pieravažna ŭ miasie, a ŭ mienšaj kolkaści ŭ jajkach, małace, rybie, bobie, harosie i fasoli. Dziela taho, što na miasa nia ŭ kožnaha stajeć, možna jaho zamianić adnym z vymienienych artykułaŭ, majučych białko. Jość ludzi, što zusim nie jaduć miasa, i nie chvarejuć ad hetaha, ale jaduć zatoje małako, rybu, fasolu, šalbabon i t. d.

*Tłušč* znachodzicca ŭ sałaninie, maśle, łoju, aleju, a pierad usim u husinym šmalcu. Biez tuku nia možna abyjścisia, bo jon vielmi patrebny dla arhanizmu, a taksama i strava biaz tłuščŭ nia smačnaja.

*Vuhlavadany* znachodziacca pieravažna ŭ ziemlarobskich praduktach, jak bulba, muka, chleb, buraki, jabłyki i inš.

Hetyja artykuły jość padstavaj našych haspadarak, ale tady jany nam prynosiać naležnuju karyść, kali spažyvajucca ŭ paru, umieła zroblenyja i z dadatkam tuku (tłuščaŭ).

Patrabuje jšče naš arhanizm mineralnych solaŭ, jakija prymajem u postaci soli kuchonnaj (NaCl) i z roznymi ahorodzinami, jakija taksama majuć mnoha mineralnych sastavaŭ.

Kali my dadziom čałavieku ŭsiaho hetaha, a nie dadajom nieakreślenych jašče što da istoty, a što nazyvajem *vitaminami*, to čałaviek budzie markotny, biaz žyćcia, schudzieje, niezachoča jeści i zachvareje na rožnyja škrofuličnyja

chvaroby. Pieršy vykryŭ vitaminy halandzki doktar Eyk, kala 1906 h., za što atrymaŭ hrašavuju naharodu Nobla. Eyk byŭ vastrožnym lekaram u Indyi i ŭciamiŭ, što viaźni, kormlenyja daŭno zvaranaj i z starych praduktaŭ pryhatavanaj stravaj, chudzieli, madzieli i masava pačynali chvareć. Razroźnivajem siahońnia vitaminy A, B, C i inšyja. Znachodziacca jany ŭ niešatravanych (nieabdziranych) ziarniatach žyta, jačmieniu, pšanicy, ryžu, a nastupna ŭ śviežym maśle, małace, pamidorach, kapuście, burakoch, sałacie, morkvie, ahurkach, jabłakach, hrušach i inšaj aharodninie. Tolki adno, kab hetyja pradukty byli śviežyja. Vitaminy duža kvołyja, praz niekalki miesiacaŭ hinuć. Inšyja nie pieranosiać vyšejšaj temperatury i hinuć npr. pry 60 hrad. C; a niekatoryja vytrymoŭvajuć i 100 hrad.C. ale hinuć paśla.

Zhetul vysnavak, što treba adžyŭlacca śviežaj, a nie daŭno zvaranaj ci učarašniaj stravaj, a aharodzinu najlepš jeści, kali jana vyśpieje, syroj.

Patrebu vitaminaŭ najbolš adčuvajuć dzieci, bo im nie chapaje vitamin uzrostu. Chapajucca jany instynktoŭna za zielen, aharodninu, frukty i t. p. I razumnyja baćki pavinny davać dziciaci ŭ mieru i systematyčna daśpiełaj syryzny.

Što da napojaŭ, to kava i harbata hetulki majuć u sabie pažyŭnaj vartaści, kolki majuć u sabie małaka i cukru.

Piva, chto lubić, dobra čas ad času vypić, ale ŭ mieru.

Adnym z najhoršych i najškadniejšych napojaŭ dla zdaroŭja i hramadzkaha žyćcia, jość harełka. Jakija niaščasnyja tyja ludzi, što pryvykli pić! Viečna jany bosyja, viečna hołyja, a vypić chočuć. Časta tut jość vina nia tolki samoha pjanicy, ale i jahonych baćkoŭ, bo navyk da harełki pierachodzić z pakaleńnia na pakaleńnie.

Vialikuju taksama adkaznaść za pjanicaŭ majuć tyja baćki i apiakuny, jakija dziaciej svaich zmušali pry nahodzie kryšku vypić. Ciešylisia tady, što dzicio, choć morščycca, ale pje. Paśla arhanizm dziciaci pryvyk da harełki i baćki nia ciešacca, što synok ich „to ŭnočy, to ŭdzień, to žyta to jačmień“ciahaje da jakohaś Abrama, kab dastać čarku.

Dzieci pjanicaŭ byvajuć kvołyja, chvaravityja, časta kaleki, niazdolnyja da navuki, a časta — zusim duraki. Što da zdaroŭja, to harełka asłablaje serca, trucić nyrki i kiški (katar žałudka), zabivaje intelekt. Pry hetym pjanica čałaviek naahuł padobny da dzikoha źviara, kidajecca na ludziej, bjecca, što časta kančajecca trahična.

Dyk voś, kali žadajem ščaścia asabistaha i dabrabytu hramadzkaha, to miž inšym musimo nia pić harełki, jak heta jość u vysoka kulturnych hramadzianstvach.

**Stud. med. J. M.**

# Лісты

## ТАК І ПАВІННА БЫЦЬ.

**Клочкава**, Беніцкае гміны, Маладэчанскага пав. На Каталіцкую Сёмуху, вучыцель польскае школы у нашай вёсцы наладзіў польскае прадстаўленьне, ставячы абразок з жыцьця магнатаў. Моладзь наша прачуваючы, што нічога там карыснага для сябе ня ўбача, а адно пачуе абрыдзіўшыя закліканьні запісвацца да „стшельца“, якому прадусім залежыць на тым, каб з беларусаў зрабіць палякоў, не пашла на гэтае прадстаўленьне. Гэтак сама паступіла і старэйшае грамадзянства. І так на прадстаўленьні былі толькі самі арганізатары „стшэльца“. Наша моладзь стараецца залажыць гурток беларускае культурнае-арганізацыі.

Так і павінна быць. Х а—Х а.

## ЗАКЛАДАЙМО ГУРТКІ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ.

**в. Макаўляне**. Сакольскага пав. Ёсьць у нас польская вучыцелька, якая, як і ўсе іншыя, вялікая польская ,,патрыётка“. Вось-жа пачала яна старацца залажыць у нашай вёсцы ,,Koło Młodzieży Polskiej“, і хочачы як-небудзь прыцягнуць да сябе моладзь, абяцала яна бадай што ,,залатыя горы“. Аднак, калі гэтае ,,кола“ паўстала, дзякуючы нясьведамасьці нашае моладзі, усе абяцанкі і асталіся абяцанкамі. Нічога добрага яно нам не дало і не дае, моладзь нашу даводзіць да розуму і яна пачынае стуль уцякаць. Астаецца адно пажадаць, каб уся моладзь наша пазнала праўду і зразумела, што для яе ня месца ў чужой польскай арганізацыі, а што абавязкам яе ёсьць арганізаваць гурткі свае беларускае культурна прасьветнае арганізацыі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і там працаваць для агульнага і свайго ўласнага дабра.

Толькі праз сваю родную арганізацыю патрапім мы здабыць сабе лепшую долю!

Я. — скі.

---

*Кожны малады Беларус, які мае намер вучыцца, няхай паступае ў сваю родную беларускую гімназію!*

---

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

Справа Віленскае і Наваградзкае Беларускіх Гімназіяў. Як мы ўжо пісалі, Бацькаўскі Камітэт Віленскае Беларускае Гімназіі на сходзе 27.V. с. г. выступіў проці прапазыцыі Куратара Віленскага Школьнага Вокругу аб самаліквідацыі гімназіі ўзамен за раўналежныя беларускія клясы пры польскай гімназіі, 26.VI с. г. Бацьк. К-тэт сабраўшыся на Агульным Надзвычайным Сходзе яшчэ раз пацьвердзіў сваё становішча, а дзеля таго, што Прэзыд. К-ту, давёўшы гімназію, як кажуць да абуха, падаўся ў адстаўку, сход выбраў новы Прэзыдыюм і даручыў .яму зрабіць усе магчымыя захады, каб утрымаць гімназію.

Новы Прэзыдыюм К-ту ў першую чаргу падаў у Куратарыюм заяву аб зацьверджаньні гр. Сяргея Паўловіча на дырэктара гімназіі на 1932-33 шк. год. Куратар аднак адмовіўся зацьвердзіць яго на гэтае становішча; тады Прэзыд. К-ту адклікаўся да Мініст. Асьветы і Веравыз. Дзеля таго аднак, што вырашэньне справы зацьверджаньня гр. С. Паўловіча прыняло такі бег, Прызыдыюм падаў другога кандыдата на дырэктара, гр. Вячаслава Багдановіча (б. сэнатара), ад якога ўжо кураторыюм зажадала пасьведчаньня, атрыманага ад адміністрацыйных уладаў аб маральнасьці і адносінах яго да Польскае Дзяржавы, паміма таго, што ён ужо ад пачатку 1932 году ёсьць праўна спаўняючым абавязкі дырэктара ў расейскай гімназіі ў Вільні.

У справе прапазыцыі Куратара аб пераходзе гімназіі на раўналеглыя клясы і адказе просьбе Бацькаўскага К-ту аб матэр'яльнай дапамозе для гімназіі, з боку ўраду, Прэзыдыюм К-ту выслаў адпаведны мэморял да Міністра Асьветы і Веравызнаньняў.

Бацьк. К-тэт Наваградзкае Беларускае Гімназіі ў адказ на прапазыцыю Куратара заявіў, што ён згаджаецца на „упаньствовене,“ гімназіі, але з тым, што яна будзе самастойнай,з беларускім кіраўніцтвам і вучыцельскім пэрсоналам, што будзе дакончана будова ўласнага будынку гімназіі і што будзе заснаваная сямігадовая беларуская пачатковая школа. Адказу на гэта яшчэ няма.

Справа ліквідацыі беларускіх гімназіяў набрала шырокага разгалосу і як падаюць газэты, ўсе ведамыя беларускія паэты ў Радавай Беларусі начале з Янкай Купалай і Якубам Коласам вынясьлі супроць гэтага востры пратэст. Як аканчальна вырашыцца лёс апошніх беларускіх гімназіяў, яшчэ няведама. Верыць аднак ня хочацца, што яны будуць зьліквідаваны.

Беларусы на Міжнародным Студэнскім Кангрэсе 5.VIII. с. г. ў Латвіі ў Рызе распачаў-

ся XIV Кангрэс Міжнароднае Студэнскае Конфэдарацыі, на якім беларускае студэнства рэпрэзантуе ад Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў у Празе Чэскай. Дохтар Алесь Вітушка. Кангрэс патрывае да 16-га жніўня с. г.

Мэмор'ял. 25.VII. с. г. Беларускім Нацыянальны Камітэт выслаў мэмор'ял да Мітрапаліта Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, у якім дамагаецца, каб навука рэлігіі ў школах, пропаведзі ў цэрквах, царкоўная адміністрацыя адбываліся пабеларуску, а так жа каб склікаць Царкоўны Сабор і ўнармаваць рэлігійнае жыцьцё праваслаўных беларусаў.

Сёлетнія беларускія юбілеі. Апрача 50-тых угодкаў жыцьця Янкі Купалы, прыпадаюць сёлета 50-тыя ўгодкі жыцьця Якуба Коласа, 80-тыя ўгодкі першага тэатральнага прадстаўленьня, 10-тыя ўгодкі беларускага школьніцтва ў Латвіі.

**З выдавецкае нівы.** Апошнім часам вышлі з друку і паступілі ў прадажу наступныя новыя беларускія кніжкі і часопісі:

„Kaniok-Harbuniok" — В. А., выд. „Бел. Крыніцы" Вільня 1932 г. 88 бачын. Цана 50 гр.

Кніжыца гэта вельмі цікавая, лёгка і складна напісана паводле шырака-ведамае расейскае байкі Яршова „Канек-Гарбунек," аб малады, бедным, слабым на розуме сялянскім хлапцу, які пры помачы Канька-Гарбунька стаўся мужам князёўны.

„Dzieja majej myśli serca i woli" — К. Сваяка Выд. „Chryść. Dumki". Вільня 1932 г. 72 бачыны. Цана 40 гр.

Гэта запіскі К. Сваяка аб ягоным жыцьці ад дзяцінства да 1925 году ўключна, гэта значыць бадай аж да сьмерці, бо ў 1926 годзе 6 траўня К. Сваяк у маладым яшчэ веку памёр.

„Leki na ździeki" — інж. Ад. Клімовіч. Коопэратыўная Бібліятэка № 1. Выд. Віленскага Аддзелу Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры. Вільня 1932 год. 32 бачыны цана 25 гр.

Аўтар у гэтай кніжыцы абгаварывае сучасны крызыс, ягоныя прычыны, коопэрацыю ў ва ўсіх яе адменах, спосабах выхаду з сучаснага цяжкога палажэньня і магчымасьць коопэратыўнае самапомачы ў Беларусаў. Кніжыца гэта зьявілася вельмі ў час і бязумоўна ёй павінен зацікавіцца кожны, хто толькі жадае для народу і для сябе дабра.

„Унія на Палесьсі"— В. А. Выданьне Таварыства Ісусава-а. У кніжыцы гэтай аўтар піша аб уніі на Беларусі; апісвае праўдзівае здарэньне — дыскусію аб уніі паміж ксяндзом, манахам і ўніятам. Кніжыца напісана вершам вельмі лёгка, абымае 16 бачын і каштуе усяго 10 гр.

„Што такое сухоты (цітубэркулёза)

і як з імі змагацца" — Падтакім вось назовам напісала і выдала кніжыцу аб сухотах і змаганьні з імі дохтар мэдыцыны Марыя Голуб-Бучынская, якая працуе цяпер у Чэхаславаччыне у санаторыі „Альбэртынум." Кніжыца гэта дужа патрэбная, абымае 16 бачын і каштуе ўсяго 10 гр.

„Пралескі." № 1. Вучнёўская часопісь Віленскае Беларускае Гімназіі. Чэрвень 1932 год. Часопісь рэдагуе Рэдакцыйнае Калегія пад даглядам вучыцяля В. Грышкевіча. Часопісь выдана літаграфічныл спосабам. Цана нумару 50 гр. Маладым Рэдактарам і Выдаўцом жадаемо пасьпеху.

„Царква і Народ" № 1. Беларуская Праваслаўная часопісь. Выдавец Яхім Красоўскі, адказны рэдактар І Балтручак. Зьмест часопісі багаты. Падпіска на год каштуе 2 зл. Адрас Адміністрацыі Вільня, Завальная 6—10, Адрас Рэдакцыі Баровая 7а—1.

**Беларусы ў Латвії.** — Беларускі папулярна-навуковы, пэдогогічны і літэратурна-грамадзкі штомесячнік: „Беларуская Школа ў Латвіі" ўзнавіў сваё выдавецтва і ўжо сёлета вышлі два нумары яго: 1 (11) і 2 (12). Рэдактарам часопісі зьяўляецца гр. К. Езавітаў. Падпіска на год каштуе 6 латаў , заграніцай — 2 даляры. Паштовы адрас Biełaruskaja Škoła u Łatvii, Riga, pastokast № 1362. Адрас Рэдакцыі — Рыга. Ільінская вул. 20 кв. 25. – Падпіску слаць трэба на адрас: Łatvija, Riga posta tek-rekina 836.

— У дзяржаўным латвійскім бюджэце на 1932-33 год, да распараджэньня Беларускага Аддзелу прызначана 71.707 латаў.

**Беларусы ў Нямеччыне**. У канцы мін. шк. году ў Бэрліне Беларусы Студэнты заснавалі свой Беларускі Студэнскі Саюз.

---

# Usiačyna.

Biełaruskaja Dziaržaŭnaja Biblijateka ŭ Miensku U pieršych dniach miesiaca lipienia sioletniaha hodu, jak padało polskaje. radyjo. u Radavaj Biełarusi ŭ Miensku adčyniena Biełaruskaja Dziaržaŭnaja Bibiljateka, jakaja maje adzin miljon knižak. U hetym liku najbolš knižak biełaruskich, dalej-ža iduć knižki rasiejskija polskija i inš.

Pamior litoŭski paet Majronis. 28.VI. s. h. ŭ Koŭni pamior šyroka-viedamy litoŭski paet Majronis, praŭdzivaje proźvišča jakoha jość Maculevič, byŭ jon katalickim ksiandzom prałatam.

Skolki jość ludziej na ziamli? Pavodle „Statystyčnaha Hadavika" Lihi Narodaŭ 1-ha studnia 1932 h. žyło na ziamli 2 miljardy 12 miljonaŭ 800 tysiač čałaviek; u paraŭnańniu z prošłym hodam lična heta pabolšała na 20 miljonaŭ asob Z hetaha ahulnaha liku 1 miljard 103 miljony asob žyvie ŭ Azii, 506 miljonaŭ u Eŭropie, 252 miljony ŭ Amerycy, 142 miljony ŭ Afrycy i 10 miljonaŭ u Aŭstralii i na vyspach akijanskich

U Francyi nasielnictva źmianšajecca. Pavodle statystyki ŭ 1932 hodzie ŭ Francyi naradziłasia 183.427 asob. a pamiorła 199.110 asob.

Skolki ludziej zhinuła ŭ časie vojnaŭ? U časie vojnaŭ

apošnich dvuch stahodździaŭ, jak pakazvaje statystyka, zhinuła ahramadnaja kolkaść ludziej. I tak u časie siamiletniaje vajny zhinuła 554.000 asob, u časie francuskich revalucyjaŭ 1.400.000 asob, u napaleonskich vojnach zhinuła 1.700.000 asob, u časie vajny za niezaležnaść Ameryki — 700 000 asob, u rasiejska japonskaj vajnie — 62..000 asob, u časie bałkanskich vojnaŭ — 108.000 asob i nakaniec u časie ŭsiaśvietnaj vajny zhinuła 23 miljony asob.

9-ty mižnarodny zlot „Sakoła". Ad 26.VI da 6.VII s. h. u Prazie Českaj adbyŭsia 9-ty Mižnarodny zlot „Sakołaŭ" — himnastyčnaja arhanizacyja moładzi — ŭ jakim pryniało ŭdzieł 40.000 sakołaŭ. Na zakančeńnie zlotu adbyŭsia pachod sakołaŭ pa vulicach Prahi, jaki pryniaŭ prezydent Čechasłavaččyny Masaryk. Pachodu pryhladałasia bolš 700.000 čałaviek.

Praf. Pikar iznoŭ choča lacieć u stratasferu. Prafesar belhijskaha ŭniversytetu Pikar, jaki ŭ prošłym hodzie na specyjalna zbudavanym balonie ŭzniośsia na vyšyniu 16.000 metraŭ, h. zn. u pavierchniu jakuju zavuć stratasferaj, sioleta jon na novym balonie iznoŭ choča lacieć jašče vyšej. Sioletni jahony ŭzlot rožnicca ad prošłahodniaha tym, što kali jon tady na vyšyniu 15 500 metraŭ uzniośsia u praciahu 28 minut to ciapier jon na hetu vyšyniu maje padymacca nieskalka hadzin i hety pavalniejšy ŭzlot daść jamu mahčymaść rabić navukovyja doślady.

X Olimpijada. 1 žniŭnia s. h. ŭ Amerycy ŭ Los Anglos raspačalisia olimpijskija spartovyja ihry; z dasiulešnich vynikaŭ vyhladaje, što pieršaje miejsca ŭ hetych ihrach zajmuć Złučanyja Štaty Ameryki.

Kooperacyja i moładź. Kožny čałaviek pačuŭšy biadu šukaje vychadu z jaje. Voś-ža za vychad z ciapierašniaha ciažkoha pałažeńnia słušna mnoha ludziej uvažajuć kooperacyju, jakaja z kožnym dniom uzrastaje. Kooperatyŭny ruch achaplaje taksama i moładź; i tak u Anhlii, Francyi i ŭ Zł. Št. Ameryki jość navat adumysłovyja kooperatyŭnyja časopisi dla moładzi. U 1931 hodzie vychodziła ich ahułam 4, jak miesiačniki ŭ nakładzie 21.000 ekzemplaraŭ. Pažadana, kab i naša biełaruskaja moładź bolš cikaviłasia kooperacyjaj, jakaja daje šmat mahčymaściaŭ pracavać na svaju ŭłasnuju i ahulna-hramadzkuju karyść.

## Наша пошта.

Колі Недаступнаму. Вашы вершы слабыя, чытайце як найбольш беларускіх кніжак і пішыце лепш прозай не закідайце так-жа і рысункаў, бо да іх як відаць з прысланага, маеце здольнасьць. Апісаньне мальёрацыі нам на падходзе, перадаём яго ў Рэд. „Б. Крыніцы", можа яна скарыстае. Карэспандэнцыю выкарыстаем у наступным нумары. Просім пісаць часьцей.

А. Жуку За прысланае дзякуем, па магчымасьці скарыстаем.

Я. Вількоўшчыку. Вершы атрымалі, дзякуем, па магчымасьці будзем друкаваць.

Пав. Зос. Канфіската была не за Вашу карэспандэнцыю. Вершы слабыя, пісьмо перадалі, „Шл. М." высылаем, з прысланага як бачыце карыстаем. Просім пісаць часьцей.

Паварошцы. За прысланае дзякуем скарыстаем, пішэце часьцей

Сякому-такому. Атрымалі, скарыстаем, просім не забываць

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і М. Пяцюкевіч.*

**Выдавец Янка Баградановіч. Рэдактар Язэп Найдзюк.**

## АД РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ.

З прычыны таго, што некаторыя нашыя падпішчыкі позьняцца з аплатай падпіскі, а такжа дзеля таго, што Гарадзкі Суд налажыў штраф за сканфіскаваны ў прошлым годзе № 8(31) „Шляху Моладзі“, Рэдакцыйная Калегія апынулася ў вельмі цяжкім матэр'яльным палажэньні і змушана была агранічыцца з выданьнем „Шляху Моладзі за месяц ліпень і жнівень да аднаго нумару.

На далей Рэдакцыйная Калегія даложыць усіх стараньняў, каб часопісь выходзіла акуратна, да гэтага аднак патрэбна і акуратнасьць падпішчыкаў, дык усіх нашых даўжнікоў просім неадкладна паклапаціцца аплаціць належную падпіску, бо ў праціўным выпадку, высылку часопісі будзем змушаны ўстрымаць.

Пры тым ветліва просім усіх Грамадзян добрае волі памагчы Рэд. Калегіі аплаціць штраф, які моцна прыгнятае нашае выдавецтва.

Грошы просім высылаць па адрасу: *Redakcyja „Šlachu Moładzi“, Vilnia, Zawalnaja vul. 6—10.*

*РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.*

## Навіцыят Усходняга Абраду Айцоў Езуітаў
### у АЛЬБЭРТЫНЕ каля Сло́німа.

Айцы Езуіты, каб узгадаваць ідэйных барацьбітоў і шчырых працаўнікоў для сьвятой справы аб'яднаньня хрысьціян, залажылі некалькі гадоў таму назад у Альбэртыне каля Слоніма Навіцыят. Найбольш пажаданы ў Навіцыяце кандыдаты з беларускіх асяродкаў знаючыя мову й абычаі беларускага народу.

Каб паступіць у Навіцыят трэба мець:

1) цажаданьне дасканальнага законнага жыцьця; 2) найменш скончаныя 4 клясы гімназіі (з лацінскай мовай); 3) згоду бацькоў, або апякуноў; 4) адпаведная выпраўка (адносна каторай трэба лістоўна паразумецца)

Да просьбы аб прыняцьці трэба далучыць: мэтрыку, школьнае пасьведчаньне, вышэй успомненую згоду бацькоў або апякуноў, пасьведчаньне маральнасьці ад пароха, або прэфэкта школьнага і свой жыцьцяпіс. Усё гэта трэба выслаць на адрас:

*W. O. Protoihumen Misji Wschodniej o. o. Jezuitów.*
*p. Albertyn koło Słonima.*

*ТАНЕЙ ЯК УСЮДЫ прадае ўсялякія беларускія кніжкі, школьныя падручнікі і канцэлярскія прылады Biełaruskaja Knibarnia „PAHONIA“, Vilnia Zavalnaja 6—10.*

## Усходняя (уніяцкая) Духоўная Сэмінарыя ў Дубне

прыймае кандыдатаў на ўніяцкіх сьвяшчэньнікаўмісіянэраў.

Умовіны прыняцьця:

1) Скончаная сярэдняя адукацыя;
2) Добрая знаёмасьць лаціны.
3) Духоўнае пакліканьне, г. зн. ідэйная цяга пасьвяціць свае сілы сьвятой справе злучэньня.
4) Прыналежнасьць да Уселенскай Каталіцкай Царквы ў усходнім абрадзе, прынамся з мамэнту ўступу да Сэмінарыі.

Заявы аб паступленьні падаваць па адрасу:

*Papieskie Duchowne Seminarjum Wschodnie w Dubnie.*